АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

12 – 18 САКАВІКА 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 15000 РУБЛЁЎ
№11 (203)

СМАРГОНЬ

## Сялянская выручка

Апошнім часам смаргонскае малако з прыватных сядзіб "уцякала" у Маладзечанскі раён, бо там за літр плацяць ужо па 22 тысячы рублёў. Пабачыўшы гэта, райвыканком падвысіў сваім рашэннем яго кошт з 6500 да 16500 рублёў за літр вышэйшага гатунку. Усё селяніну прыбытак.

*Павел МАКЛЮК.*

АШМЯНЫ

## "Тры ў адным" па–ашмянску

Многія каваманы прадукцыю мясцовага ААТ "Белкава" набываюць апошнім часам замест замежных "Якабс" ці "Чыба". Якасць "Прэм'ера" вызначаецца тым, што ААТ "Белкава" набывае толькі лепшыя гатункі кавы. Сярод краін, дзе закупляецца кава, фігуруюць 9 краін, сярод якіх Калумбія і Мексіка.

У хуткім часе на фабрыцы зоймуцца выпускам новай прадукцыі. Гэта будзе распушчальная кава "Тры ў адным" (кава + смятанка + цукар). Цяпер ідзе падрыхтоўка неабходнай дакументацыі, каб распачаць выпуск гэтай прадукцыі, а таксама пошук пакупнікоў. Кіраўніцтва таварыства спадзяецца знайсці і патэнцыяльных спажыўцоў новай прадукцыі ў Расіі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВАЛОЖЫН

## Касцёл на ўпакоўцы

Івянецкая кандытарская фабрыка пачала выпускаць некаторыя з відаў ірысу ў новай упакоўцы.

На ўпакоўцы – выявы архітэктурных помнікаў: Белы і Чырвоны касцёлы, што знаходзяцца ў мястэчку.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

АСТРАВЕЦ

## Для мілых дам

Напярэдадні 8 сакавіка ў памяшканні раённага Дома культуры адбылася выстаўка–продаж трыкатажных і швейных вырабаў. Арганізаваў яе і правёў мясцовы камбінат бытавога абслугоўвання насельніцтва. На выстаўцы дэманстравалі каля 30 найменняў прадукцыі, якая выпускаецца непасрэдна на прадпрыемстве.

Наведвальнікі выстаўкі мелі магчымасць не толькі пабачыць, але і зрабіць падарунак перад святам сабе і сваім блізкім. Каса камбіната ў выніку папоўнілася на 10 мільёнаў рублёў.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВІЛЕЙКА

## Прадухілілі паводку

Снег і камунальныя службы выратавалі некаторыя прыватныя ўчасткі ад паводкі. Дзе ваду адпампавалі, а дзе яна замерзла. Як паведамілі ў штабе грамадзянскай абароны, узровень вады на вадасховішчы крыху ўзняўся, аднак скіданне вады не перавышае норму – 46 кубаметраў у секунду.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Можа, фонд дапаможа?

Пазабюджэтны фонд «Правапарадак» створаны для дапамогі праваахоўным органам раёна. Дапамагаць жадаючыя будуць не толькі міліцыі, але і дзяржаўнай бяспецы, пракуратуры.

Узначаліў грамадскі савет нанова створанага фонду намеснік старшыні райвыканкома **Аляксей Апановіч**.

*Павел МАКЛЮК.*



КОНКУРСЫ

# Краўчанкі сталі знакамітымі



Алена – галоўная прыгажуня Маладзечанскага раёна.

ФОТА АЛЕГА БАШТАВЕНКІ.

МАЛАДЗЕЧНА. Акрамя вядомага Пятра Краўчанкі – пасла РБ у Японіі – жыхары рэгіёна цяпер будуць ведаць яго цёзку па прозвішчы – Алену. У конкурсе прыгажунь Маладзечанскага раёна "Белая лілея" Алена Краўчанка стала галоўнай "міс". І ў падарунак атрымала тэлевізар.

*Заканчэнне на 2–й стар.*

НА РАЗГЛЯД САВЕТА

## Поспехаў паслядоўнікам

МАЛАДЗЕЧНА. На сесіі гарсавета 16 сакавіка плануецца разгледзець ход рэалізацыі мэтавай комплекснай праграмы "Здароўе", прынятай гарсаветам у 1998 годзе на перыяд да 2000 года.

Сацыяльна–эканамічная нестабільнасць у апошнія гады не дазволіла ў поўнай меры выканаць прадугледжаныя праграмай мерапрыемствы па ахове здароўя насельніцтва, паляпшэнні санітарна–гігіенічных і супрацьэпідэмічных умоў яго пражывання і вытворчай дзейнасці. Цяперашняе становішча пагаршае здароўе людзей.

За апошнія гады смяротнасць сярод насельніцтва значна перавышае нараджальнасць. Павялічваецца інваліднасць хворых, расце агульная і інфекцыйная захворваемасць. Прагноз у адносінах здароўя насельніцтва на наступныя гады вельмі непрыдатны. Востра паўстае праблема алкагалізму і наркаманіі. Дрэнна складваецца сітуацыя па пытаннях прафілактыкі СНІДу. Выяўлена 2 выпадкі ВІЧ–інфекцыі, а для правядзення патрэбнай прафілактыкі ў цяперашні час не хапае медінструментарыя і інвентару.

Для мінімізацыі ўрону здароўю насельніцтва ад непрыдатных фактараў неабходнае выдзяленне немалых грашовых сродкаў. Аднак у бюджэце горада на 1999 год большасць з невыкананых мерапрыемстваў праграмы не знайшлі адлюстравання. А гэта значыць, што да канца стагоддзя не завяршыцца пачатае будаўніцтва станцыі па абезжалезванні вады на водазаборы "Гелянова", які дае ваду палове насельніцтва горада; новай базы спецаўтагаспадаркі; прыбудовы харчаблока да СШ №6, праекту якой хутка споўніцца 15 год; будаўніцтва новай школы ў мікрараёне №6 прадоўжыцца яшчэ не адзін год.

Цяперашняму складу дэпутатаў ужо не ўдасца паўплываць на іх рашэнні, хочацца пажадаць поспехаў іх паслядоўнікам.

**Міхаіл ГРАБОЎСКІ,**
**намеснік галоўнага ўрача РЦГіЭ.**

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# Хто кляне снег – дык гэта работнікі камунальных службаў

***МАЛАДЗЕЧНА. 114 кіламетраў асфальтаваных дарог (без уліку тратуараў) павінны штодзень расчышчаць механізаваныя брыгады. Каб паспець своечасова гэта рабіць, вадзіцелі (і не толькі яны) устаюць і прыходзяць на работу на 2–3 гадзіны раней звычайнага.***

На жаль, у "Камунальніка" няма спецыялізаванай снегазборачнай машыны – так званых "залатых рук". Каштуе яна сёння 5 мільярдаў.

Таму сабраны ў гурбы снег не вывозіцца і пад сонейкам пературыцца, у лепшым выпадку, у брудныя ручаі.

*Аддзел інфармацыі.*



Звыклы малюнак апошніх дзён.

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

СКЛАДЗІ САБЕ ПРЫГАЖУНЮ

# Склаў сабе прыгажуню і атрымаў у падарунак не горшую



Юрый Івашкін з "падарункам".

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА

У конкурсе "Складзі сабе прыгажуню" разам з Ларысай Сарокінай перамог **Юрый Івашкін**. Ён спецыяліст па рамонце аўтамабіляў. У складанні "нізу" і "верху", як шчыра прызнаўся, дапамаглі.

На фінал "Міс Маладзечна–99" Юрый, можа, і не пойдзе. У яго цяпер ёсць свая прыгажуня. Паўдзельнічаў у конкурсе – зарабіў.

*Аддзел інфармацыі.*

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Не пазнаў курэй

У вёску Сцюдзяніца прыехаў да бацькоў капрал польскай арміі (даваеннай). Хоча сваю маці зацікавіць польскай мовай:

– Mamusia! Co to za ptaki chodza? (Мама! Што за птушкі ходзяць?)

На панадворку хадзілі куры.

Маці здзівілася такому недарэчнаму пытанню сына, які стаў забывацца родную мову.

Тут якраз капрал наступіў на зубы грабляў, атрымаў па ілбе. Схапіўшыся за гузак, успомніў мову бацькоў:

– Які д'ябал так паставіў граблі?

## Старшыня–рацыяналізатар

Пра гэта і сёння з усмешкай гавораць у розных кутках краіны.

Старшыня аднаго калгаса В. па чыёйсьці парадзе ці сваёй ініцыятыве вырашыў па–новым весці прыём наведвальнікаў. Каб людзі ведалі, што кіраўнік гаспадаркі адзін у кабінеце і ніхто больш не прысутнічае, загадаў прарэзаць і зашкліць акенца ў дзвярах (што ў турэмнай камеры).

Кпінам (праўда, за вочы) над старшынёй не было меры. Дайшло гэта і ў райцэнтр. Там паціскалі плячыма і думалі: калі апраўдае сябе новаўвядзенне, то і мы прыменім. Не трэба будзе трымаць сакратарку ў прыёмнай: глянуў у акенца – адзін начальнік – заходзь без перашкод.

Надоўга так працягвалася. Аднойчы кіраўніка гаспадаркі пасля чаркі так змарыў сон, што ён распрануўся да трусоў і ўлёгся на свой шырокі канцылярскі стол, захроп.

Трэба ж было камусьці з работнікаў канторы глянуць у акенца і ўбачыць гэтую карціну. Відовішча ўсіх зацікавіла.

Не знайшлося такога, хто заклеіў бы акенца паперай. А знайшоўся такі, хто паспяшаўся да тэлефона і запрасіў работнікаў райкома партыі паглядзець на своеасаблівы "цуд".

Што было далей? Няцяжка здагадацца. Старшыня–рацыяналізатар быў зняты з работы (не толькі за сон на стале, але і за іншыя ўчынкі, недахопы, заганны стыль кіраўніцтва гаспадаркай).

Замест дзвярэй з акенцам паставілі новыя, цэлыя, непарэзаныя. Кабінет для новага старшыні перанеслі ў новае месца, абсталявалі прыёмную, прызначылі сакратарку.

**P. S.** Былы "рацыяналізатар" жыве ў раёне.

## З мінулай вайны

Ля Будслава фашысты абсталявалі палявы аэрадром, ахоўвалі чыгунку. Адзін з нямецкіх афіцэраў задумаў вітацца з мясцовымі жыхарамі так, як прынята ў Будславе. Знайшоўся "настаўнік", які навучыў фрыца замест "добры дзень" ці "добры вечар" гаварыць такія словы, што сорамна пісаць...

І вось той афіцэр, заходзячы ў хату, ці на вуліцы абкладваў будслаўцаў такім матам, што людзі чырванелі, маўчалі, баяліся адкрыць рот.

І ўсё ж немцу хтосьці даў зразумець, што ён вымаўляе брыдкія словы, што ў перакладзе на нямецкую мову гучаць...

Разлютаваны фрыц насіўся па вуліцы, заходзіў у хаты, шукаючы таго "настаўніка". Лаяўся, але на гэты раз па–нямецку. Лічыў, што зняславіў сябе, як афіцэра вермахта, прадстаўніка вышэйшай расы. Калі б сустрэў, то пусціў бы кулю.

Пасля хадзіў з перакладчыкам і прасіў прабачэння за сваю ранейшую "ветлівасць".

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

СМАЧНА ЕСЦІ

## Вяндліна

***(пры наяўнасці свінні, як некалі заўважыў наш аўтар Ігар Кіцікаў)***

За суткі да вэнджання густа пасыпаць падрыхтаваныя кавалкі мяса соллю і спецыямі, даць ім прасаліцца.

У вядро з накрыўкай насыпаць пілавіння слоем прыблізна 10 сантыметраў. Перавярнуць накрыўку, прывязаць да яе мяса (абавязкова закручанае ў марлю) і шчыльна закрыць вядро – "вяндлярны апарат" гатовы, можна ставіць на агонь. Кілаграмовы кавалак будзе добра правэнджаны праз гадзіну.

Усё гэта трэба рабіць не ў памяшканні, а на адкрытым паветры. Пілавінне лепей браць ад дрэў лісцевых парод, бо ў яловых і хваёвых шмат смалістых рэчываў, якія могуць надаць мясу гаркаваты смак.

*Наташа.*

## Морква па–карэйску

Апошнім часам я захапіўся "карэйскай морквай" – па–першае, смачна, па–другое, вялікая колькасць часнаку ў гэтай салаце аўтаматычна ахоўвае ад грыпу.

Салата робіцца ў эмаліраваным посудзе. 1 кілаграм морквы нацерці на спецыяльнай тарцы, дадаць 4 сталовыя лыжкі воцату, 150 г разагрэтага алею, закрыць крышкай, каб морква крыху размягчылася, потым дадаць 3 сталовыя лыжкі цукру, 1 маленькую лыжку чорнага ці чырвонага перцу, вялікую галоўку часнаку (прапушчаную праз прыладу для расціскання часнаку). Усё добра перамяшаць.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

***Вы ўмееце выбіраць апельсіны з тонкай скуркай? Нават калі і ўмееце, ці заўсёды яны трапляюцца ў продажы? А ўжо як крыўдна выкідваць паўкілаграма скурак ад кілаграма дарагіх фруктаў, вы дакладна ведаеце. Цяпер аблівацца слязьмі з гэтай прычыны вам не давядзецца.***

## Варэнне "Радуйся"

Купіць паўтара - два кілаграмы апельсінаў і з'есці іх. Па меры з'ядання апельсінаў скуркі складваць у 3–літровы слоік з халоднай вадой, ваду мяняць раніцой, увечары і 2–3 разы ўдзень (у гарачы летні час і часцей – скуркі могуць закіснуць). Скуркі патрэбна абавязкова вымочваць, каб выдаліць з іх гаркату. Праз трое сутак (лічачы ад першага апельсіна, калі скурак будзе прыкладна паўслоіка) скуркі з вады дастаць і парэзаць на дробныя (0,5 см) квадрацікі, ромбікі, трохвугольнічкі і іншыя геаметрычныя фігуры. Кавалачкі з цёмнымі плямамі выкідвайце, не шкадуйце. Падрыхтаваныя скуркі патрэбна ўзважыць. На 400 г сыравіны ўзяць 400 г цукру. Цукар распусціць у невялікай колькасці вады, ускіпяціць і гэтым сіропам заліць скуркі. Далей варыць як звычайнае варэнне ў 2–3 прыёмы да гатоўнасці (даць пракіпець 5 хвілін, зняць з агню, астылі – даць пракіпець 5 хвілін і так далей). Варэнне гатовае, калі ў скурак белая частка робіцца празрыстай, а самі скуркі – мяккімі.

скуркі апельсінаў ............ 400 г
цукар ............................ 400 г
вада .............................. няшмат

## Кактэйль "Марожаная Pepsi cola"

***Вельмі проста***

Бярэцца 50-100 грамаў сметанковага пламбіру (падыходзіць толькі сметанковы пламбір і ніякі іншы) і кладзецца ў высокі бакал. Даліваем "PEPSI" (гэта важна, таму што іншыя колы не даюць жаданага эфекту), пакуль пена не падымецца да берагоў. Далей, па меры выпівання, даліваем, пакуль не скончыцца марожанае. Потым кактэйль гатуецца нанова. Не забудзьцеся з'есці вельмі смачную пену.

сметанковы пламбір ......... 100 г
PEPSI COLA .................... 200 мл

*Наташа ГАМОЛКА.*

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка



Прапануем вашай увазе крыжаванку, дасланую нам **Аляксандрам Касцюкевічам** з вёскі Крывое Сяло, што на Вілейшчыне. Аўтар, на жаль, не прытрымліваўся агульнапрынятай нумарацыі пытанняў.

Па гарызанталях: 1. Узброенае ўмяшанне адной ці некалькіх дзяржаў ва ўнутраныя справы другой дзяржавы з мэтай захопу тэрыторыі і ўсталявання свайго панавання. 2. Светлы круг, ззянне вакол сонца, зорак і іншых яркіх прадметаў. 3. Трохмачтавае ваеннае парусное быстраходнае судна. 4. Майстар па ручным каванні жалеза. 5. Агент, які выведвае дзяржаўныя і ваенныя тайны і выдае іх іншай дзяржаве. 6. Усё, што вакол нас. 7. Састаўная частка электрычных машын і турбін, якая круціцца. 8. Жывёла класа земнаводных. 9. Чалавек, які жыве ў Арабскіх Эміратах. 10. Глыбіні зямлі, а таксама тое, што знаходзіцца ў іх, пад зямной паверхняй. 11. Край лесу. 12. Адценне, тонкае адрозненне ў чым–небудзь. 13. Часовае карыстанне якой–небудзь маёмасцю за пэўную плату. 14. Хімічны элемент. 15. Невялікая круглая пасудзіна з ручкай для піцця вады, квасу. 16. Навука аб мінералах.

Па вертыкалях: 17. Чалавек, які лечыць сродкамі, разлічанымі на адсталых людзей (напрыклад, замовамі), а таксама можа напускаць хваробы. 18. Тое, да чаго імкнуцца людзі і што хочуць ажыццявіць. 19. Пасланец бога ў выглядзе крылатага юнака. 20. Прынятая паслядоўнасць абрадавых дзеянняў. 21. Мастацтва праектаваць, будаваць і прыгожа афармляць будынкі. 22. Арганічнае злучэнне кіслот са спіртамі. 23. Яркая сіняя фарба. 24. Асоба, якой што–небудзь дасылаецца па пошце. 25. Устарэлае слова. 26. Футляр для шаблі, кінжала. 27. Паэтычны твор, у якім ідэалізавана абмалёўваецца сельскі быт на ўлонні прыроды. 28. Прафесійны паляўнічы, які кіруе паляваннем. 29. Разбурэнне паверхні зямлі вадой, ветрам. 30. Іншая назва гарэлкі – зялёны ... . 7. Каштоўны камень чырвонага колеру. 15. Невялікі кій.

**Адказы на чайнворд, змешчаны ў №10:**

1. Рома. 2. Арыя. 3. Ялта. 4. Абак. 5. Кіпр 6. Рэал. 7. Ліга. 8. Атам. 9. Маяк. 10. Карп. 11. План. 12. Нант. 13. Тэма. 14. Авен. 15. Нота.

**Адказы на міні–крыжаванку, змешчаную ў №10:**

Па гарызанталях: 1. Абрэк. 4. Амвон. 5. Атрэк. 8. Архар. 9. Анчар.

Па вертыкалях: 1. Атава. 2. Ровар. 3. Конік. 6. Тыран. 7. Элара.

ГАРАСКОП 15–21 САКАВІКА

**АВЕН (21.03–20.04)**
Кепскія дні 15, 16. Цябе чакаюць дадатковыя нагрузкі і дома, і на працы.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Важны дзень 20. Умацуеш свае пазіцыі па ўсіх напрамках.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Добры дзень 16, кепскі 19. Зможаш нядрэнна зарабіць.

**РАК (22.06–23.07)**
Добрыя дні 16, 17. Звярніся да вечных каштоўнасцяў – да кахання і дабрыні.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Будзеш любімцам фартуны.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Добры дзень 17, важны 21. Цябе чакае цікавая дзелавая прапанова, рэалізацыя якой прынясе добры прыбытак.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Кепскі дзень 15, важны 18. Не пазбягай дадатковых нагрузак на працы – ўзнагарода будзе адпаведная.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Ва ўсім можаш давярыцца партнёру, але гэта не пазбавіць цябе ад асабістых намаганняў.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Добры дзень 19. Адбудзецца шмат змяненняў, прычым, усе будуць на тваю карысць.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Кепскія дні 17, 18. На твой бок пяройдуць былыя нядобразычліўцы.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Добрыя дні 19, 21. Нават у нялёгкім фінансавым становішчы ў цябе ёсць шанц дасягнуць вялікага поспеху.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Добры дзень 17, важны 20. Больш увагі аддавай сям'і.

З НАТУРЫ

## Шчанюкі ў горадзе

Проста на траве пад вокнамі суседняй пяціпавярхоўкі ашчанілася сучка. Схаваўшы шчанят у кусціках ля акна ў падвал, яна, падціснуўшы хвосцік, ціхенька скуголіла ад холаду і голаду, жаласна зазірала ў вочы людзям, якія ўваходзілі ў пад'езд. Першымі дапамаглі ёй дзеці. Хто скарыначку кіне, хто кавалачак кілбасы... Патроху пра Белку даведаліся і гаспадыні і пачалі часам проста з кухонных фортак скідаць ёй то костку, то яшчэ што. Белка пакруглела, больш не скуголіць. Яна цяпер спакойна сядзіць пад вокнамі і чакае. А калі гасцінцаў доўга няма, яна злосна гаўкае: вы што, нягоднікі гэткія, на мяне забыліся?! Калі хто з дзяцей ідзе з пустымі рукамі і не кіне ёй нічога - нагаўкае і на яго. Вось так, выжыўшы, дзякуючы людской дабрыні, Белка да яе прывыкла, а зараз яшчэ і злуецца, калі падачак няма.

Вось я і падумаў, што гэтая падзея, нязначная вельмі, усё ж люстэрка нашага жыцця: колькі цяпер разнастайных ільготаў, бясплатных праездаў, вызваленняў ад плат і падаткаў, дазволаў прайсці ці купіць без чаргі і г. д.!

Ці правільна гэта, калі выгадна быць бедным, хворым, жабраком і непрацаздольным, хоць бы на паперы? Можа, лепш было б, каб і юрыдычная, і маральная атмасфера грамадства падтрымлівала і заахвочвала перш прадпрымальных і працаздольных, дужых, здаровых і багатых? Тады б і ўсім іншым побач з імі жылося б лепей? Можа, хто скажа?

... А шчаняты ўжо падраслі, выскокваюць на клумбу і цяўкаюць на тых, хто іх не частуе.

*Валерый ХІНЕВІЧ.*

*Асобы*

## Наш Сцяпаныч

МАЛАДЗЕЧНА. Мяняліся назвы і склад мясцовай футбольнай каманды, але нязменным у ёй на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў заставаўся фанатычна адданы справе футбола яе былы гулец і трэнер **Аляксандр Ракіцкі**, якога сярод былых і цяперашніх маладзечанскіх футбалістаў з павагай называюць "наш Сцяпаныч".

*Алесь ЦАДКО.*



*Лета-1982, група гульцоў маладзечанскага "Металіста" у Брэсце за дзень да гульні на першынство Беларусі з мясцовым "Пединстытутам". Трэці злева — галоўны трэнер Аляксандр Ракіцкі.*

ФОТА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА БЫЛОГА ГУЛЬЦА КАМАНДЫ ВАСІЛЯ МАКЕЯ.

*Міні-футбол*

## "Прадпрымальнік" ідзе на рэкорд "Зеніта"

ВІЛЕЙКА. Незвычайны зімовы міні-футбол дэманстравалі сем каманд з 11 лютага па 7 сакавіка на стадыёне СПТВ-124. Гулялі ў восем чалавек па даволі раскіслым снезе. На жаль, у горадзе няма больш-менш прымальнай залы, дзе можна было згуляць хаця б у чатыры палявыя футбалісты. Але дванаццацігадовую традыцыю падобных турніраў не перарвалі. Дарэчы, найчасцей выйграваў калектыў з "Зеніта" - 5 разоў. Цяпер там выступаюць зусім іншыя людзі, іншыя каманды займаюць і месцы сярод фаварытаў.

Пасля кругавога турніру па 14 ачкоў набралі "Прадпрымальнік" і ФСК "Ураджай", 13 - "Граніт". Першыя двое згулялі паміж сабой унічыю 1:1, і мелі яшчэ па адной нічыёй. "Граніт" перад апошнім турам лідзіраваў, але ў ім саступіў "Ураджаю".

Згодна з рэгламентам адбыліся суперфінальныя матчы за 3-4 і 1-2 месцы. Ніжэйшую прыступку ўмоўнага п'едэстала гонару заняў "Граніт", які прайграў "Буддэталям" 2:0. У самай галоўнай сустрэчы лік адкрылі "ўраджаеўцы" праз аўтагол сапернікаў. А потым двойчы вызначыўся **Валерый Губіч,** і такім чынам "Прадпрымальнік" трэці раз запар перамог у турніры. Атрымаў пераходны кубак і прызавыя грошы.

Як лепшых гульцоў можна адзначыць варатара **Аляксандра Уліцкага** з "Граніта", абаронцу **Сяргея Няхайчыка** з ФСК "Ураджай" і нападаючага **Алега Губіча** з "Прадпрымальніка".

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Гарадкі*

## Мерапрыемстваў шмат, грошай мала

***МАЛАДЗЕЧНА. На працягу студзеня і лютага праходзіла некалькі падрыхтоўчых турніраў да чэмпіянату Еўропы ў Ніжнім Ноўгарадзе ў закрытых памяшканнях, з якога тыдзень таму вярнуліся мясцовыя гарадошнікі.***

Дома гулялі, як і летась, у СШ №2. Самых лепшых словаў заслугоўвае яе дырэктар **Уладзімір Шпетны**, які выдзеліў спартыўную залу для спаборніцтваў гарадошнікаў (баяцца не было чаго, бо пасля турніраў – ніводнай драпіны ў зале). Добразычлівасць кіраўніка зразумелая, бо працэнтаў 80 нашых майстроў заканчвалі менавіта гэтую сярэднюю школу. Дарэчы, цяпер там створаны (магчыма адзіны на СНД) спецклас. Пяцікласнікі займаюцца плаваннем і гарадкамі.

Змагаліся сёлета на пластыкавых пляцоўках, што далі ў арэнду санкт-пецярбуржцы. Каб выкупіць, трэба заплаціць 1500 долараў, якіх проста няма. У працяг тэмы адзначу, што значныя фінансавыя праблемы паўсталі і перад паездкай у Ніжні Ноўгарад. Дзякуй ЗАТ "Кэмпі" (дырэктар **Барыс Лапко**), дзе, працуе адзін з лепшых гарадошнікаў **Генадзь Сушко,** за выдзелены бус, на якім спартсмены дабіраліся праз Расію. На месцы размяшчаліся за свой кошт.

Чэмпіянат Мінскай вобласці. 1. **Аляксандр Карповіч** (123 біты) 2. Генадзь Сушко (124) 3. **Віктар Данілаў** (126).

Чэмпіянат Беларусі. 1. Генадзь Сушко (120) 2. Віктар Данілаў (130) 3. **Аляксандр Кулак** (132).

Чэмпіянат Еўропы. Асабістае першынство. 1. **Ігар Грышын** (112) з Расіі (Балашыха) 2. **Аляксандр Бабіч** (115) з Украіны 3. **Дзмітрый Мядзведзеў** (117) з Расіі...7. Генадзь Сушко (120)...9. Аляксандр Кулак (122)...13. Віктар Данілаў (124).

Каманднае першынство. 1. Расія-1 2. Украіна 3. Беларусь (да памянёнай тройкі плюс **Аляксандр Філістовіч**, Аляксандр Карповіч і **Андрэй Аракчэеў**).

Маладзечанская шасцёрка - бронзавы прызёр еўрапейскага чэмпіянату!

У асабістым заліку не ўсё так добра. Яшчэ шмат трэба працаваць. Напрыклад, у рэйтынгу, які складзены па выніках мінулага года, лепшы з беларусаў, прадстаўнік маладзечанскага раёна **Аляксандр Гарошка** (ён быў у Ніжнім, але з-за прастуды не выступіў), на 12-й пазіцыі. У дваццацьпятцы таксама Аляксандр Кулак (15-16), Генадзь Сушко (18), Андрэй Аракчэеў (21-22). Сярод дзесяці лепшых – шасцёра ўкраінцаў і чацвёра расіянаў.

Напрыканцы красавіка аматараў чакае традыцыйны міжнародны турнір памяці ахвяраў Чарнобыльскай трагедыі, які пройдзе ў Маладзечне.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Міжсезонне*

## ФК "Маладзечна": навіны

У мінулыя выхадныя каманда ў стайкаўскім манежы згуляла таварыскі матч з барысаўскай "Зменай–БАТЭ" (II ліга). З лікам 7:5 перамог ФК "Маладзечна". Галы на рахунку Вайцяховіча (2), Сінкаўца (2), Т. Шамшорыка, Д. Кабельскага і Рыжэўскага.

Клуб вырашыў адмовіцца ад паслуг варатара Вадзіма Котлера (1975 г. н.).

15–19 сакавіка плануецца правесці ў Маладзечне турнір на вялікім полі. Акрамя гаспадароў, згадзіліся прыехаць "Забудова", "Ліда", "Камунальнік" (Слонім), Дынама–Юні (Мінск). Магчымы і ўдзел жодзінскага "Тарпеда". Толькі каб снег не стаў перашкодай.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

**P.S.** На турнір у Пінску, які адбудзецца 20–25 сакавіка, каманда не паедзе.

*Міхаіл Шутовіч:*

## – "Дзіцячы садок"? Гэта мы яшчэ паглядзім!

Галоўны трэнер ФК "Маладзечна" адгукнуўся на інтэрв'ю Мікалая Абрамовіча, змешчанае ў мінулым нумары "РГ":

– У нас цяпер новая каманда. Тое, што было раней, – гэта ўжо гісторыя. Кіраўнікі клуба і гарадскія ўлады робяць усё, каб стварыць футбалістам добрыя ўмовы. Прыкладам, выплацілі зарплату напярэдадні 8 сакавіка.

У мяне вялікая просьба да балельшчыкаў ФК "Маладзечна" зразумець сітуацыю і набрацца цярплівасці. Першыя матчы ў нас будуць вельмі складаныя, бо будзем гуляць з "элітай" беларускага футбола. Хацелася б, каб у нашай каманды была добрая падтрымка з боку балельшчыкаў. А наконт "дзіцячага садка"... Гэта мы яшчэ паглядзім!

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

*Баскетбол*

## Адраджэнне традыцый

МАЛАДЗЕЧНА. Загадчык аддзела па фізічнай культуры і спорту гарвыканкома адобрыў прапанову баскетбалістаў аб стварэнні федэрацыі баскетбола горада. Трэнерскі склад Маладзечна правёў сход, дзе абраны старшынёй федэрацыі трэнер баскетбольнай каманды "Электрамодуль" Леанід Казлоў.

На пасяджэнні распрацавалі палажэнне аб правядзенні турніру горада і зацвердзілі ў гарспорткамітэце. Турнір праводзіўся ў спартыўнай зале ПТВ–21, узялі ўдзел 12 каманд. Судзейская калегія баскетбола дазволіла выступаць усім жадаючым старэйшага ўзросту за любы калектыў.

У 1–й групе ў фінал выйшлі каманды "Электрамодуль", ЗЛМК, у 2–й – МЭС, "Лакаматыў". За II–III месца змагаліся каманды ЗЛМК–МЭС (перамаглі завадчане; адзначу добрую гульню ветэранаў І. Барылы, Я. Антоненкава, маладога перспектыўнага гульца Д. Зуева). У сустрэчы за І месца "Лакаматыў" перамог каманду "Электрамодуля" (вызначаліся ветэраны А. Казлоўскі, І. Калачык; а вось у адсутнасць яшчэ аднаго ветэрана каманды "Электрамодуль" Л. Казлова, які хварэў, перспектыўная каманда прайграла больш вопытным баскетбалістам).

Турнір паказаў, што ў горадзе баскетбол не забыты, ёсць перспектыўная моладзь, ды і ветэраны яшчэ не апошняе слова сказалі. Спаборніцтвы прайшлі на добрым узроўні. У далейшым для ўдзелу ў турнірах мяркуецца запрашаць каманды іншых гарадоў. Вырашана таксама правесці першынство сярод калектываў у залік спартакіяды горада.

*Валерый ГРЫГОР'ЕЎ.*

*Рыбная лоўля*

## Юшкай сябе забяспечылі

СМАРГОНЬ. Тут на Рыжым возеры, што ля вёскі Рачуны, у апошні дзень зімы праходзілі міжраённыя спаборніцтвы па падлёднай лоўлі рыбы.

Каманднае першынство засталося за прадстаўнікамі Астравеччыны. Шэсць чалавек у суме злавілі 7 кілаграмаў 450 грамаў багатай на фосфар здабычы. Значна адсталі ашмянцы (2.950) і гаспадары (1.750).

У асабістым першынстве тройку лепшых склалі астравецкія хлопцы. Першы - **Юрый Яскевіч** (2 кг 300 г), другі - **Аляксандр Дзісавенка** (1.600), трэці - **Генадзь Міцкевіч** (1.100). А самую буйную рыбіну вылавіў **Генадзь Акушка** з Ашмянаў. Яму "здаўся ў палон" акунь на 400 грамаў.

Лепшыя ўзнагароджаны грашовымі прызамі, а таксама вудамі-"дзевяцікаленкамі".

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Турызм*

## Зімой "Пілігрымы" ў шапку не спяць

МАЛАДЗЕЧНА. Не сядзіцца дома мясцовым турыстам і зімой. То на рэспубліканскі злёт на Мінскае мора выехалі (ажно 56 чалавек), то свае спаборніцтвы па тэхніцы лыжнага турызму наладзілі ў парку. Самыя няўрымслівыя мяркуюць з 25 сакавіка зрабіць пешае падарожжа па Горным Крыме (кіраўнік Аляксей Багавец). А тыя шчасліўцы, якія маюць свае ровары, латаюць камеры і падлічваюць, колькі ж кіламетраў трэба праехаць да Міхайлаўскага на 200–годдзе Аляксандра Пушкіна, а таксама пабываць на Рагнедзінай горцы, дзе па легендзе пахаваная Рагнеда, дачка Полацкага князя Рагвалода, разам з бацькам і братамі.

Хто жадае, калі ласка, можа ўзяць удзел у падарожжах.

*Сяргей БЯЛКОЎ, турклуб «Пілігрым».*

*Гімнастыка*

## У гонар 8 Сакавіка

МАЛАДЗЕЧНА. Адбыўся адкрыты чэмпіянат горада па спартыўнай гімнастыцы, прысвечаны жаночаму святу. Праўда, госці з Барысава і Оршы не прыехалі, і давялося дзяўчынкам, выхаванкам мясцовай ДЮСШ, спаборнічаць паміж сабою. Высвятлялі лепшых у абсалютным заліку па суме чатырох відаў: скачок, бервяно, брусы і вольная кампазіцыя.

Сярод самых юных першынствавалі:

– па праграме другога юнацкага разраду: 1. **Наталля Цялюкіна** (1992 г. н.) 2. **Кацярына Ласкутова** (1992) 3. **Вікторыя Кельмут** (1993).

– па праграме першага юнацкага разраду: 1. **Таццяна Ляўчук** (1990) 2. **Алеся Посах** (1990) 3. **Наталля Казакевіч** (1991).

– па праграме трэцяга дарослага разраду: 1. **Марыя Сак** (1989) 2. **Марына Асанава** (1990) 3. **Алеся Дзмітрачэнка** (1989).

Самымі цікавымі былі выступленні дзяўчат па праграме кандыдатаў у майстры спорту. Іх трэнеры **Валянціна Канарэйкіна** і **Аляксандр Княжэвіч**.

1. **Галіна Бабковіч** (1985, СШ №10) 2. **Таццяна Валынец** (1986, СШ №11) 3. **Кацярына Зянько** (1984, СШ №9).

Спаборніцтвы былі арганізаваныя ўрачыста. Пераможцы атрымалі як грашовыя прызы, так і, зразумела, кветкі.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Агляд*

## Спартыўныя героі надзвычай папулярныя

***Калі імкнешся раскласці па паліцах вялікі спорт у сусветных маштабах, бачыш, што трэба аддаць даніну нацыянальным традыцыям. Бейсбол і амерыканскі футбол у ЗША, футволей у Бразіліі, настольны тэніс у Кітаі, рэгбі ў Аўстраліі, лыжны спорт у Нарвегіі, хакей на траве ў Індыі.***

Калі згадаць гэтыя асаблівасці, адразу трэба называць тыя віды, што папулярныя па ўсёй планеце. Зразумела, лёгкая атлетыка, якая прыйшла да нас ад старажытных Алімпіяд. Яе дэвіз "Хутчэй, вышэй, мацней" крочыць побач з чалавекам праз усю гісторыю цывілізацыі. А вось футбол з'явіўся адносна нядаўна, у мінулым стагоддзі. І адной фразай адказаць на пытанне, чаму заваяваў так шмат прыхільнікаў, цяпер проста немагчыма. Можа, у нашых нашчадкаў атрымаецца?

Увогуле, камандныя віды спорту (футбол, хакей, баскетбол, валейбол, гандбол) больш дэмакратычныя. Шмат гульцоў, шмат балельшчыкаў. Але гэтыя віды прыдуманыя чалавекам, не маюць аналагаў у штодзённым жыцці. Асабістыя ж віды, такія, як аўтагонкі, лыжны спорт, стральба, барацьба, бокс, веславанне прыйшлі якраз з паўсядзённасці. А, прыкладам, тэніс, спартыўная гімнастыка, фігурнае катанне заваладалі балельшчыкамі дзякуючы прыгажосці, эстэтычнасці.

Вялікі значэнне мае, скажам так, чалавечы фактар. Непераўзыдзенымі каралямі сваіх відаў з'яўляюцца **Пеле** (футбол), **Майкл Джордан** (баскетбол), **Махамед Алі** (бокс), **Аляксандр Карэлін** (грэкарымская барацьба). Сярод самых знакамітых людзей планеты і **Міхаэль Шумахер** (аўтагонкі), **Майк Тайсан** (бокс), **Марціна Хінгіс** (тэніс) і многія іншыя. Справа, відаць, не ў тым, што яны дораць людзям прыгажосць свайго майстэрства ды зарабляюць астранамічныя сумы. Чалавецтву патрэбныя героі, і на парозе трэцяга тысячагоддзя менавіта спартсмены ўсё больш зацвярджаюцца ў такім статусе. Зразумела, у падобным становішчы рэчаў шмат адмоўнага. Але так ёсць. Мы жывем у такім свеце.

Мае сваю нішу на сусветнай арэне беларускі спорт. На планеце добра ведаюць **Аляксанда Мядзведзя** (вольная барацьба), **Ігара Жалязоўскага** (канькабежны спорт), **Вольгу Корбут** і **Віталя Шчэрбу** (спартыўная гімнастыка). Праўда, іх імёны, у першую чаргу, асацыіруюцца з Савецкім Саюзам. А такую краіну, як Беларусь, цяпер славяць **Іван Іванкоў** (спартыўная гімнастыка), **Наташа Зверава** (тэніс), **Уладзімір Самсонаў** (настольны тэніс), **Кацярына Хадатовіч** (акадэмічнае веславанне), зборная па хакеі, каманда біятланістаў і г. д.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Валейбол*

## Навучэнцы спрытнейшыя за сялян

МЯДЗЕЛ. Дзевяць каманд бралі ўдзел у чэмпіянаце раёна па валейболе. Матчы праходзілі ў спартыўных залах сярэдніх школ №1 і №2. Гулялі па новых сусветных правілах. Шмат прыходзіла гледачоў, і месца для іх у непрыстасаваных памяшканнях часам не хапала.

Спачатку адбыліся сустрэчы ў падгрупах. "А": 1. СШ №2 (Нарач) 2. Занарач 3. Сельгаспрадпрыемства імя М. Танка. "Б": 1. ПТВ-207 2. "Нептун" (Мядзел) 3. Калгас "Свір". "В": 1. Райаграпрамзабеспячэнне 2. ПТВ-207 (каманда–2) 3. СШ №2 (Мядзел).

Як відаць, прыкладна палова каманд – навучэнцы і школьнікі, а другая палова прадстаўляе сельскагаспадарчую вытворчасць. Працягнулася падобнае супрацьстаянне і ў фінальнай пульцы пераможцаў падгруп. 1. ПТВ-207 2. РАПС 3. СШ №2 (Нарач).

Такім чынам, пасля хакейнага чэмпіёнства каманда прафтэхвучылішча (дырэктар *Эдуард Вайцяхоўскі, прадстаўнік каманды Генадзь Цівунчык) стала мацнейшай і ў валейболе.*

Лепшымі гульцамі прызнаныя **Алег Траццяк** (ПТВ-207) і **Юрый Ломаць** (Нарацкая СШ №2).

## Залешукі і вішанькі

СМАРГОНЬ. У чэмпіянаце раёна гулялі каманды сельскіх саветаў. Мужчынскі турнір сабраў чатырнаццаць калектываў, а жаночы – пяць. 6 і 7 сакавіка змагаліся адразу на трох пляцоўках: школы-інтэрната, сярэдняй школы №4 і спарткомплексу "Юнацтва".

Вось тройкі прызёраў.

Мужчыны: 1. Залессе 2. Жодзішкі 3. Кушляны

Жанчыны: 1. Вішнева 2. Крэва 3. Войстам

Лепшых гульцоў не адзначалі, а ўзнагародзілі ўвесь склад каманд-пераможцаў.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

# Украінска-беларускі Конкурс вучнёўскіх даследчых працаў «Слядамі гісторыі»

## Арганізатары Конкурсу:

***Рэгіянальная асацыяцыя выкладчыкаў гісторыі і грамадскіх дысцыплінаў «ДОБА» (Львоў)***

***Архіў Найноўшай Гісторыі Беларускі Гуманітарны Фонд «Наша Ніва» (Мінск)***

***Пры падтрымцы Міжнароднага фонду «Відродження» (Кіеў)***

***Старшакласнікі (8-11 кл. і навучэнцы сярэдніх навучальных установ) Украіны і Беларусі запрашаюцца да ўдзелу ў дыскусіі на тэму «Чалавек-Час-Помнік». Прапануецца даслаць свае пісьмовыя працы-роздумы на такія тэмы (на выбар):***

1. Помнік - гэта праява грамадскай волі, калі толькі ён не навязаны таталітарным рэжымам. Ці павінны мы гэтыя сведчанні мінулага разглядаць толькі пад палітычным пунктам гледжання?

2. Наколькі правільным ёсць сцверджанне пра тое, што помнікі «не падманваюць», «не маўчаць»? У такім разе, ці дапамагаюць яны лепей зразумець гісторыю?

3. Падчас бітваў, асабліва XX ст., шмат нашых суайчыннікаў ваявала ў складзе розных, часам варожых, сілаў. Як мы цяпер павінны ставіцца да помнікаў, пастаўленых у іх гонар?

4. Сёння існуе яшчэ шмат помнікаў, якія сімвалізуюць аджылыя палітычныя ідэі. Ці мусім мы іх знішчаць, пакідаць недатыкальнымі ці пераносіць у іншае месца?

5. Ці дапамагаюць нам сёння помнікі не забываць мінулае? Магчыма, мы павінны шукаць іншыя формы захавання духу мінулых часоў?

6. Якія помнікі патрэбныя нашаму грамадству сёння?

Вашыя даследаванні павінны:

мець аб'ём да 8 старонак друкаванага ці 12 старонак рукапіснага тэксту;

абапірацца на мясцовы матэрыял;

выяўляць асабістае стаўленне да грамадскіх з'яў і працэсаў;

можна прыкладаць здымкі, малюнкі, цікавыя дакументы ці іх ксеракопіі.

Удзельнікам конкурсу трэба дадаткова, на асобным аркушы, падаць звесткі пра сябе: імя, прозвішча, год нараджэння, месца навучання, хатні адрас (абавязкова з паштовым індэксам), тэлефон, а таксама пра свайго кансультанта (калі ён ёсць): імя, прозвішча, адрас, тэлефон.

Па выніках Конкурсу аўтары 25 самых цікавых працаў з беларускага і 25 з украінскага боку:

пабачаць свае працы апублікаванымі;

будуць запрошаныя да ўдзелу ў міжнароднай маладзёжнай канферэнцыі «Чалавек-Час-Помнік», якая адбудзецца ў кастрычніку 1999 года ў Львове;

стануць удзельнікамі разнастайнай культурнай праграмы;

атрымаюць каштоўныя падарункі;

атрымаюць магчымасць у будучым узяць удзел у іншых міжнародных праектах.

Што яшчэ важнае:

вынікі Конкурсу будуць вядомыя ў верасні 1999 года;

дасланыя на конкурс матэрыялы не вяртаюцца;

да ўдзелу ў Конкурсе заклікаюцца аўтары з разнастайнымі палітычнымі і грамадскімі поглядамі.

***Просім даслаць вашыя працы да 30 чэрвеня 1999 года на адрас:***

***а/с 71в Мінск 220123 (з пазнакаю «Конкурс «Слядамі гісторыі»)***

***даведкі па тэл. 2295569 (Ірына Коваль)***

***Жадаем поспехаў!***



## РОЗНАЕ

### ПРАДАМ

• **ДЗВЕРЫ ЎВАХОДНЫЯ ФІЛЯНГОВЫЯ. Т. у Маладзечне 60088.**

• Шафу трохстворкавую з антрэсолямі. Т. у Маладзечне 69206.

• Пліту газавую Брэст, новую, электрараспальванне, грыль, двайная духоўка. Т. у Маладзечне 68775.

• **МЭБЛЮ ВЫТВОРЧАСЦІ РБ. Т. у Вілейцы 56382.** Падлягае абавязковай сертыфікацыі.

• Сетку ацынкаваную, латкі жалезабетонныя для ацяплення, памер 3х0,6х0,45. Т. у Вілейцы 56230.

• Блокі газасілікатныя. Т. у Маладзечне 37686.

• **НОВАЯ МЭБЛЯ З ДАСТАЎКАЙ. ТАННА. Т. у Маладзечне 36396.** Падлягае абавязковай сертыфікацыі.

• **ВЕЛАСІПЕДЫ! ДАРОЖНЫЯ, ДАМСКІЯ, СКЛАДАНЫЯ. ОПТАМ і Ў РОЗНІЦУ. НЯДОРАГА. ДАСТАЎКА ПА ГОРАДЗЕ БЯСПЛАТНА. МАГЧЫМАЯ ДАСТАЎКА Ў ІНШЫЯ ГАРАДЫ І ВЁСКІ. ТАВАР СЕРТЫФІКАВАНЫ. ПП № 2002 ад 1996 г. ТЭЛЕФАНАВАЦЬ У ЛЮБЫ ЧАС. Т. у Маладзечне 52738.**

• Новыя халадзільнікі і маразільнікі Атлант, нядорага. Т. у Маладзечне 35357.

• Слыхавы апарат. Т. у Маладзечне 66969.

• Металічныя і п/эт. скрыні. Дзяржцана. Т. у Маладзечне 60758.

• Нядорага шчанят чаў-чаў. Т. у Маладзечне 36365.

• КТ Гарызонт-421Д, 51см; Шыляліс, 42 см; халадзільнік Мінск 15М; дом для Барбі. Усё ў выдатным стане, з дастаўкай. Т. у Маладзечне 53721.

• Швейную машынку Бразер PS-33, Японія, новая, 250 у. а.; газавую калонку, новая. Т. у Маладзечне 52369.

• Каляску прагулачную імпартную, б/у; швейную машынку Тула, б/у. Усё ў добрым стане. Т. у Маладзечне 65251.

• Металічныя дзверы для арганізацый і прыватных асоб. Ад завода-вытворцы. Па нізкіх цэнах. Тэл. у Мінску: (017) 220-54-95, 224-52-20, 257-75-07, 279-75-25.

• Кухню вытв. Польшчы. Т. у Вілейцы 53789, 58929.

• Халадзільнік, новы. Т. у Вілейцы 58436 (пасля 1700).

• Прадам Атлант-256. Т. у Смаргоні 31669.

• Прыхожую Нарачанка, стол-кнігу. Усё новае. Т. у Маладзечне 71388.

• **ТЭЛЕФОНЫ** дыскавыя, кнопкавыя, з АВН, радыё-, за наяўны і безнаяўны разлік. Т. у Маладзечне 64909.

• Электрапомпу Ручаёк. Т. у Маладзечне 33608.

• Халадзільнік Атлант М-367. Т. у Маладзечне 63672, 67130.

• ТЦ Гарызонт 655, новы, гарантыйны. Т. у Маладзечне 39460.

• Музычны цэнтр Panasonic, Sony. Т. у Маладзечне 65561.

• Бульбу, нядорага. Т. у Маладзечне 63103.

• Тэлевізар Гарызонт-410, б/у, маразільнік ММ-164-0 (ва ўпакоўцы, новы). Т. у Маладзечне 64184 (пасля 1800).

• **МЯККІ ВУГАЛ**, новы, велюр. Т. у Маладзечне 67100.

• Пішучую машынку Ятрань. Т. у Маладзечне 67443.

• Халадзільнік М-260, гарантыя 3 гады, дзверы ўваходныя, філянговыя. Усё новае. Т. у Маладзечне 65072.

• Кухню б/у, 2 гады, у добрым стане. Т. у Маладзечне 77259 (дам.), 53641 (раб.).

• Тэлевізар пераносны Сапфір-412, 21 см, б/у, нядорага; Форд-Эскорт, растаможаны або мяняю на нерастаможаны а/м. Т. у Маладзечне 33363.

• Ружжо ІЖ-58. Т. у Маладзечне 32128.

• Каляску прагулачную (Германія), складаную тросць. Т. у Маладзечне 51241.

• Фартэпіяна Украіна, жоўтае, 2 ложкі 1.5-спальныя, б/у. Т. у Маладзечне 99743.

• Піяніна Беларусь; сінтэзатар Ямаха-PSR-76 (усё б/у). Т. у Мядзеле 43327.

• Шафу 3-створкавую, б/у з люстэркам; шафу 3-створкавую з антрэсолямі, канапу. Т. у Маладзечне 44356 (раб.).

• Электронна-партатыўную пішучую машынку Рамонак, новую. Т. у Маладзечне 51241.

• Паліто жаночае: драп «у елачку», колер - бардо з чорным, пам. 48, танна; паліто жаночае: шэрсць, колер - кава з малаком, пам. 50, танна. Т. у Вілейцы 56920.

• Малярны фарбапульт. Т. у Маладзечне 66060.

• Воданагравальную газавую калонку. Т. у Вілейцы 55536.

• Дзіцячую каляску (новую), фірмы Hauck, Германія, 150 у. а. Т. у Маладзечне 63707.

• Ч/б тэлевізар 34ТБ410, новы, ва ўпакоўцы, гарантыя, 15 млн. руб. Т. у Маладзечне 44858, Гена.

• Халадзільнік Атлант-260, гарантыя 3 гады. Т. у Маладзечне 39264.

• Жарабя, 1 год, карову. Т. у Маладзечне 39268.

• Палаткі і парасоны гандлёвыя. Т. у Маладзечне 35072.

• Гаражныя вароты. Т. у Маладзечне 32394.

• Залатыя ланцуг і бранзалет жаночыя, вага 23 г. Т. у Маладзечне 62996.

• Шчанят дабермана з выдатнай радаслоўнай, нядорага. Т. у Маладзечне 31555.

### КУПЛЮ

• Трубку-нержавейку ( 2-3 мм; дрот-нержавейку ( 1.2-1.4 мм, накляпаны. Т. у Маладзечне 69838.

• Канапу раскладную, б/у. Т. у Маладзечне 65032.

• М/г такарны станок у любым стане. Т. у Смаргоні 21296.

• Дорага радыёдэталі КМ, ЭТО, РЭС і г. д. Т. у Маладзечне 62996.

• Каня рабочага. Т. у Маладзечне 31129.

### ЗГУБЛЕНА

• Згубленыя дакументы на імя Кузміна В.Л., просьба вярнуць за ўзнагароду.

• Згубленыя дакументы (правы, тэхпашпарт) на імя Флярко С.П. просьба вярнуць за ўзнагароду. Т. у Вілейцы 52892, спытаць Ігара.

• Згубленае пасведчанне, серыя 09 № 094008 на імя Высоцкага Віталя Францавіча прашу лічыць несапраўдным.

### ІНШАЕ

• **УСТАНОЎКА, НАСТРОЙКА, СУПРАВАДЖЭННЕ 1С БУХГАЛТЭРЫІ. НАВУЧЭННЕ БУХГАЛТЭРЫІ. Т. У ВІЛЕЙЦЫ 57238.**

*НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ*

## Кніжкі і вышкі

У Мядзельскім раёне ёсць вёскі Наўры, Даўжані. Недалёка адна ад адной. Пра іх жыхароў гаварылі так: "Даўжанцы на кніжкі, наўранцы – на вышкі".

Жыхары Даўжаняў адзін перад адным свае зберажэнні клалі на ашчадныя кніжкі, а наўранцы, аддавалі перавагу тэлевізарам, ставілі ля хат антэны (вышкі). І ўсё тлумачэнне.

***

У Трыданах пачуў загадку: "Новы абутак, а ўжо ў дзірках".

Раней – гэта лапці, а цяпер – басаножкі.

## Хлопцы–хітруны

Пры царскай уладзе ў вёсцы Некасецк была карчма. Гаспадар меў дазвол прадаваць булачкі, гарбату. Людзі ж хацелі "цяплейшага". Карчмар прапаноўваў такі напой не кожнаму, баяўся акцызніка – «падатковога інспектара».

Вясковыя хлопцы знаходзілі спосаб, каб на дармавінку пачаставацца, глынуць шклянку–другую гарэлкі, якая ў той час разлівалася ў вялікія бутлі.

Адзін з такіх хітруноў непадалёку ад хаты карчмара крычаў: "Здаецца, акцызнік у воласць прыехаў!" і сам знікаў (у той час у Некасецку была воласць).

Пачуўшы такое, карчмар хапаў бутлі і бег з хаты ў канец агарода, да кустоў. А там была засада. Хлопцы–малойцы ў свой посуд адлівалі з бутляў па невялікай колькасці гарэлкі і знікалі (па невялікай, каб карчмар не здагадаўся). Потым частаваліся дармавым зеллем.

Карчмар праз некаторы час, даведаўшыся, што ніякага чыноўніка няма ў воласці, забіраў посуд і нёс у хату.

Паўтаралася такое не часта, але здаралася...

## Паабедалі...

Якраз 9 мая дзядок прыйшоў з вёскі ў Паставы. На плошчы грыміць музыка, крочаць калоны дэманстрантаў.

– Куды спяшаюцца людзі? Дзядулю адказваюць:

– Сегодня, дед, День Победы!

– А, паабедалі, бач, як дружна ідуць.

Глухаваты быў дзед.

## Поўна мін

Пасляваенны Мядзел. Людзі не засвоілі назвы ўстаноў, арганізацый. Бабуля пытаецца ў сустрэчнага:

– Як трапіць у поўны сак?

Чалавек пацiскае плячыма, але, пагутарыўшы са старой, даведаўся, куды ёй трэба:

– Бабуля, вам патрэбны ўпаўмінзаг. Вунь шыльда на тым доме: "Уполномоченный Министерства заготовок". Скарочана – уполминзаг.

– Дзякую, цяпер буду ведаць і суседкам скажу, дзе знаходзіцца поўны мін сак.

## Быў такі спіс

А было калісьці... Па спісе, зацверджаным у Нарачанскім пасялковым Савеце, прадавалі ва ўніверсаме гарэлку. Можаш купіць менш, а большую колькасць – не...

Памятаю, перад 1 Мая ў год антыалкагольнай кампаніі ў гастраном зайшоў прыстойна апрануты пакупнік: у капелюшы, пры гальштуку (відаць, з ліку тых, хто адпачывае ў здраўніцы). З сябрамі ці з дамай сэрца хацеў адзначыць пралетарскае свята. Вярнуцца без бутэлькі ў санаторый – страціць аўтарытэт у вачах жанчын. Да каго ні звяртаўся, каб перапрадалі пляшку (даражэй плаціў), ніхто не згаджаўся. Асабліва мужчыны, хаця і жанчыны таксама.

Пашкадаваў я бедалагу, у такой складанай сітуацыі ён апынуўся. Кажу прадаўцу:

– Бяру сваіх толькі дзве бутэлькі, а трэцюю прадайце вось гэтаму грамадзяніну.

Мужчына хацеў уручыць мне грошы, я адмовіўся.

Незнаёмец з сябрамі ці з сяброўкай у добрым настроі адзначыў свята.

А сёння ў курортным пасёлку з раніцы да позняй ночы можна ў неабмежаванай колькасці можна купіць і айчынныя, і заморскія (замежныя) "зладзейкі" з наклейкамі. Ды яшчэ з якімі!

Прадаюць не толькі ў гастраноме, але ў палатках, ларках, барах, рэстаране, у некаторых здраўніцах, на параходзе–рэстаране (закрытае акцыянернае таварыства "Нарач").

Адпачывай!

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

## ВІНШАВАНКІ

Насцечка! Віншуем з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе.

*Сям'я Вішняк.*

Сястрычку **Насцю** віншуем з днём нараджэння. Жадаем шчасця і цяпла, сяброў сардэчных і дабра.

*Юля, Дзіма.*

Дарагая **Ганна Віктараўна Міхасенка**! З днём анёла! Добрага здароўя Вам. Няхай у вашым доме будзе толькі спакой, сагрэты шчасцем, радасцю, любоўю.

*Ганна Пілігаўна і Віктар Емяльянавіч Міхасенкі.*

**Раіса Вікенцьеўна Запіляй**! Віншую Вас са святам вясны. Моцнага здароўя і ўсіх зямных даброт.

З павагай *Юля Шчаковіч* з 3-Г класа СШ № 1.

Мілая мамачка, **Людміла Іванаўна Шчаковіч**! Віншую са святам вясны. Жадаю здароўя, сапраўдных сяброў, добрых людзей у жыцці.

*Дачка Юля.*

Віншую з днём нараджэння любага **Сашу Яцэвіча**. Жадаю моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту.

Твая *«палавінка»*.

Віншую **Ангеліну Лявонцьеву** са святам вясны! Жадаю поспехаў у вучобе, добрага настрою, шчасця, кахання і ўсяго самага найлепшага.

*Святлана Губіч.*

Віншуем **Зою Дзядкову** з днём нараджэння! Мілая мамачка, прымі нашы шчырыя віншаванні. Жадаем шчасця, здароўя, даўгалецця. Ты нам усім патрэбная! Любім!

*Твае дзеці.*

**Вольгу Мікалаеўну Сайко** віншуем з днём нараджэння! Жадаем добрага здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту, аптымізму, бадзёрага настрою.

*Каса па прыёме выручкі аўтавакзала Маладзечна.*

Дарагая **Ніначка Фёдараўна Нявера**! Віншую з днём нараджэння, шчасця табе, моцнага здароўя, дабрабыту. Цалую і абдымаю.

*Марына Родзіч.*

Віншую **Любоў Аляксандраўну Жалонкіну** са святам вясны. Жадаю гэтай мілай жанчыне шчасця, моцнага-моцнага здароўя, поспехаў у працы.

З павагай *Марына Родзіч.*

Жонку і маці **Тамару Кушнір** віншуем з юбілеем. Жадаем шчасця, веснавога настрою, на доўгія-доўгія гады здароўя, здзяйснення мараў, поспехаў ва ўсіх пачынаннях. Мы цябе любім!

*Муж, дачка, сын.*

Віншуем з днём нараджэння **Віталя Грыневіча**! Жадаем усяго самага найлепшага, а галоўнае - здароўя!

*Жонка Марына і сынок Вадзім, якія цябе любяць.*

Дарагую мамачку і жонку **Алу Емяльянаўну Конанаву** віншуем са святам вясны. Желаем, чтоб хрусталь твоей мечты не смог разбиться о скалу несчастья, и чтоб весной, когда цветут сады, глаза твои всегда сияли счастьем.

*Дыяна, Валера.*

Віншуем з днём нараджэння **Юрыя Аляксандравіча Маісеенку**! Ад ўсёй душы жадаем моцнага здароўя, доўгага шчаслівага жыцця, бадзёрасці, радаснага настрою і ўсяго самага найлепшага.

*Ала і твае дочкі Іна і Хрысціна.*

Віншую дарагую мамачку **Тацціяну Міхайлаўну Петрусевіч** са святам вясны. Жадаю моцнага здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту.

*Марына.*

Любімая **мамачка**! Віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў, вялікага кахання.

*Сям'я Талькоўскіх.*

Віншуем з 16-годдзем **Танечку Яцыну**. Сегодня в день рождения мы желаем всей душой здоровья, счастья, вдохновения, добра и радости большой. Сям'я

*Руновічаў з Вілейкі.*

## ЗНАЁМСТВЫ

Сімпатычная жанчына, 41/170/57, забяспечаная жыллём, ёсць дачка, пазнаёміцца для сур'ёзных адносін з мужчынам. Маладзечна-7, д/з п/в.б. № 318063.

Удава, 45/164/53, жадае пазнаёміцца з сур'ёзным мужчынам без шк/зв да 47 год. Маладзечна-7, п/п № 511494.

Сучасная вясёлая жанчына, добрая гаспадыня, працавітая, з добрым характарам, 40/160/60, жадае пазнаёміцца з інтэлігентным мужчынам, забяспечаным жыллём у Маладзечне. Маладзечна-6, д/з п/п XI-ВН № 725131.

Дзяўчына, 35/165/59, інвалід III гр., з вышэйшай адукацыяй, пазнаёміцца з мужчынам, які жадае і мае магчымасць выехаць у Канаду. Пажадана валоданне англійскай мовай. 222310, Маладзечна-6, д/з п/п № 641398.

Дзяўчына, 35/164/59, з вышэйшай адукацыяй, пазнаёміцца з мужчынам, які мае прыватную гаспадарку ў горадзе або ў вёсцы (для шлюбу і ўзаемадапамогі). 222310, Маладзечна-6, д/з п/п № 136498.

Клуб знаёмстваў для асоб з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі (інвалідаў, адзінокіх і самотных). Інфармацыя - бясплатна, але ад вас патрабуецца канверт з адрасам: 222310, Маладзечна-6, д/з п/п № 641398.

Віктар, 21/192, пазнаёмлюся з дзяўчынай. Люблю мастацкую літаратуру і сучасную музыку. Пажадана фота. Маладзечна-1, п/п ВН 0006852.



11 КУПОН для бясплатнай аб'явы

Бясплатна змяшчаюцца аб'явы толькі ў рубрыкі "Знаёмствы" і віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст аб'явы

Прозвішча, імя, адрас (не для друку):

